ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

# ВОЛЬНАЕ + TV ГЛЫБОКАЕ

Wolne Glebokie

Жыве Беларусь!

Free Hlybokaye

Выдаецца са снежня 1994 г. №25(85), 12-19 лістапада 2001 г. Кошт па дамове


## Цытата нумара

Каго сціпласць упрыгожвае --
жывуць сумленна,
каго не – жывуць прыгожа.

*В. Сумбатаў*

## Адным радком

Савет Міністраў Беларусі зацвердзіў новую структуру апарата ўрада ў адпаведнасці з якой колькасць яго структурных падраздзяленняў паменшылася з 25-ці да 11. Колькасць супрацоўнікаў скарочана на 10%.

Па загаду прэзідэнта Украіны Л.Кучмы ідзе выплата сродкаў сем'ям, якія загінулі ў выніку катастрофы самалёта ТУ-154.

Археолагі знайшлі ля берагоў Панамы карабель Хрыстафора Калумба, першаадкрывальніка Амерыкі. Гэта адзін з чатырох караблёў чацвёртай экспедыцыі Калумба.

Загадам прэзідэнта Расіі У.Пуціна заслужанымі артыстамі краіны сталі ўдзельнікі гурта"На-На".

Чачня распрацоўвае сімвалы дзяржаўнасці – Герб і Гімн краіны.

3 лістапада недзяржаўная беларускамоўная радыёстанцыя Радыё "Рацыя" адзначыла двухгоддзе са дня пачатку працы ў эфіры. Віншуем калег!

## Размовы падаражэлі

**З 31 кастрычніка ў Беларусі ўзраслі тарыфы на міжнародныя тэлефонныя размовы.**

Зараз хвіліна зносін з Украінай каштуе 281 рубель, з Расіяй – 341, Літвой, Латвіяй і Эстоніяй – 416, Малдовай – 422, Чэхіяй – 951, Германіяй, Францыяй, Балгарыяй – 396, Англіяй – 486, ЗША – 1.224, Ізраілем – 1434, Аўстраліяй – 946 рублёў.

З 21.00 да 9.00 ў будні дні і кругласутачна ў выхадныя дзейнічаюць ільготныя тарыфы.

*Д.Власаў, БелаПАН*

## Нацбанк уводзіць у абарачэнне памятныя манеты

30 кастрычніка Нацбанк Беларусі ўвёў у абарачэнне памятныя манеты "Белавежская пушча. Зубр": сярэбраную – вартасцю 120 рублёў і медна-нікелевую вартасцю 1 рубель, а таксама сярэбраную "Біятлон", прысвечаную Алімпійскім гульням 2002 года наміналам 20 рублёў. Тыраж сярэбранай манеты – да 2 тысяч штук, алімпійскай – да 15 тысяч.

*БелаПАН*

## Беларусы жывуць у сярэднім 60,1 года

**Згодна з апублікаваным днямі агенцтвам AP даследаваннем аб працягласці жыцця ў розных краінах свету, беларусы жывуць у сярэднім 60,1 года -- на пяць год больш, чым расейцы.**

На Украіне гэтая лічба складае 56,8 года, у Грузіі -- 58,2, у Літве і Малдове -- 58,4, у Арменіі -- 59. Эстонцы жывуць крыху даўжэй за беларусаў -- 60,8 года. Найменшая працягласць жыцця сярод краін былога СССР у Таджыкістане -- 50,8 года. Сусветным лідэрам па працягласці жыцця з'яўляецца Японія -- 73,8 года. За ёй ідзе Швейцарыя -- 72,1 і Сан-Марына -- 72. Найменшая працягласць жыцця ў Сьера-Леонэ -- 29,5. У Амерыцы людзі ў сярэднім жывуць 67,2 года, шмат менш, чым у большасці развітых еўрапейскіх краін. У Аўганістане ж -- усяго 33,8 года.

*«НН»*

## Нептун пад вокнамі школы

**У Лужкоўскай СШ Шаркоўшчынскага раёна створаны экалагічны прыродны вугалок. Па задумцы дырэктара школы Міцеія Андзілеўкі частка школьнага двара ператварылася ў цудоўную казку.**

Пад вокнамі будынка выкапалі шырокі катлаван, правялі гідраізаляцыю, замацавалі сценкі збудавання каменнем, пасадзілі розныя расліны, берагі злучылі двума выразнымі масткамі-дугамі. Упершыню, у канцы лета, тут пачаў працаваць фантан у выглядзе кіта па суседству з прыгажуном-Нептунам. Каля прыгожых дрэў і кветнікаў, якія ўпачавідкі змянілі школьны двор, яшчэ доўга будуць прызначаць спатканні юныя пары. А для дзяцей меншага ўзросту створаная прыгажосць стала лепшым прыкладам беражлівых адносін да прыроды.

## Полацк запрашае на міжнародны фестываль

У Сафійскім саборы Полацка з 28 кастрычніка да 9 снежня праходзіць VI міжнародны фестываль арганнай музыкі "Званы Сафіі". У праграме фестывалю 5 канцэртаў, якія пройдуць 11, 18, 25 лістапада, 2-га і 9-га снежня.

*М.Гаравы, БелаПАН*

## Як пракарміць дзіця на такія грошы?

Сёння месячная дапамога дзяржавы на дзіця да трох год складае 23 тысячы рублёў плюс індэксацыя. Маці, якія стаяць на ўліку ў цэнтры занятасці, атрымоўваюць усяго 13 тысяч "зайцаў". Адзінокія жанчыны могуць разлічваць на дапамогу аддзела сацзабеспячэння ў памеры 21.800 рублёў у месяц на дзіцяці да 1,5 года і ў памеры 14 тысяч рублёў на дзіця да 3 год. Аднаразовая дапамога для ўсіх маці – 84 тысячы плюс 50%, калі будучая маці стала на ўлік у жаночай кансультацыі да 12 тыдняў.

*В.Паўлівец*

## Бяда не ходзіць адна

**Адразу два пажары адбыліся ў канцы кастрычніка ў цэнтральнай сядзібе калгаса імя Мічурына Пастаўскага раёна – ў вёсцы Хацілы.**

Як паведамілі ў інспекцыі Дзяржпажнагляду, пасля ўзрыва пяцілітровага газавага балона ў сярэдзіне самаробнай устаноўкі для прыгатавання ежы, успыхнуў жылы дом 61-гадовага Антона Т. Гаспадар кінуўся ў хату, каб хоць нешта выратаваць, але загінуў ад атручвання газам. Другі пажар адбыўся па прычыне няспраўнасці дымахода ў печы. На шчасце, гаспадыня-пенсіянерка не пацярпела. З пачатку года на Пастаўшчыне зафіксавана 42 пажары. У агні загінулі 4 жыхары раёна.

*У.Шык*

Адрасы вопыту

## "Вольнае Глыбокае" сустрэлася з "Віцебскім кур'ерам"

**6 лістапада слухачы школы журналістыкі, што працуе пры рэдакцыі газеты "Вольнае Глыбокае", пабывалі ў рэдакцыі незалежнай газеты "Віцебскі кур'ер".**

Адбылася зацікаўленая размова з калегамі па пяру. Віцебскія журналісты падзяліліся вопытам работы, адказалі на пытанні глыбачан наконт арганізацыі працы, творчага працэсу, наладжання адносін з "Саюздрукам" і "Белпоштай". Абодва бакі пагаварылі аб складанасцях, якія ўзнікаюць у час работы, аб шляхах выхаду з фінансавага крызісу і аб тым, як можна зарабляць грошы ў цяперашніх умовах. У многім і ў Глыбокім, і ў Віцебску праблемы аднолькавыя. На памяць аб сустрэчы застаўся здымак.

*Г.Сутула*



Слухачы глыбоцкай школы журналістыкі, што працуе пры рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае», наведалі рэдакцыю незалежнага выдання «Віцебскі кур`ер». На здымку (злева направа): камерцыйны дырэктар «ВК» В.Іскібаеў, выдавец «ВГ» У.Скрабатун, дызайнер Ю.Калбасіч, журналіст Д.Лупач, рэдактар «ВК» У.Базан (у цэнтры), адказны сакратар «ВК» В.Кручанкова, рэдактар «ВГ» Г.Сутула, рэгіянальны карэспандэнт «ВГ» С.Табола.

## З такімі тысячамі і ў Беларусі будзеш жыць па-чалавечы

**Пры сустрэчах са знаёмымі размовы амаль заўсёды зводзяца да аднаго: жыцць кепска і паляпшэння не відаць. Толькі адны людзі прызвычайваюцца да сітуацыі, а другія не супраць уцячы ад гэтага безвыходнага жыцця, кінуць усё і з'ехаць за мяжу. Для жадаючых пасяліцца за "бугром" нагадаем расцэнкі, якія нядаўна друкавала "АіФ".**

**Не сакрэт, што сёння ёсць фірмы, якія прапануюць легальнае атрыманне другога грамадзянства, а значыць, і пастаяннае месца жыхарства ў Еўропе і Амерыцы.**

Расцэнкі наступныя. Праз тры гады грамадзянства для сям'і можна атрымаць у Бельгіі. Адразу патрэбна заплаціць 20 тысяч долараў. Столькі ж спатрэбіцца на сям'ю, калі хочаце жыць у Швейцарыі. Праўда, грамадзянства ў гэтай краіне атрымаеце толькі праз 10 – 12 год. Да таго ж, штогод прыйдзецца плаціць падатак 60 – 70 тысяч долараў. Існуе і іншае выйсце – інвестыцыйная іміграцыя, калі Вы бязвыплатна пералічваеце ў эканоміку краіны пэўную суму грошай. Так, грамадзянамі Грэцыі можна стаць, калі ўнесці 35 – 59 тысяч долараў. Каб мець пастаяннае месца жыхарства у Канадзе, трэба заплаціць 20 тысяч долараў, грамадзянства атрымаеце праз тры гады пражывання. У Англіі "прыпісацца" можна праз пяць год, заплаціўшы 15 тысяч фунтаў на сям'ю. Жыхарства ў Італіі будзе каштаваць 20 тысяч долараў. У дадатак, пры пераездзе, улады патрабуюць паказаць гарантыйную суму: 50 – 70 тысяч долараў. Усяго за 14 тысяч "зялёных" можна трапіць у Аргенціну, за 15 тысяч – на Бермудскія астравы.

*«АіФ»*




Фота Ул. Скрабатуна

Толькі на глыбоцкім рынку можна ўбачыць пакупнікоў і гандляроў, якія пішуць аб`явы і робяць рэкламу па-беларуску.

# Юныя ўгоншчыкі

Крыху больш года назад Сашу К., вучня Коўшалеўскай БШ, ад крымінальнай адказнасці выратавала заступніцтва настаўнікаў школы. За крадзеж матацыкла яго сябра Віктара Ш. асудзілі на два гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай прысуду на год. Але гэты "ўрок" не пайшоў хлопцам на карысць. У канцы лета сябрукі ўгналі з гаража жыхара райцэнтра "Таёту-Каролу". Але паколькі яны ва ўсім прызналіся, іх зноў пашкадавалі і адпусцілі. Самае цікавае, што адзін з удзельнікаў злачыннай групоўкі, на выгляд спакойны і разважлівы Аляксандр, знаходзячыся пад следствам, яшчэ і свайго малодшага брата здолеў уцягнуць у крымінал. Яны разам здзейснілі некалькі ўгонаў на тэрыторыі Шаркоўшчынскага і Верхнядзвінскага раёнаў. На гэты раз Сашу К. доўга прыйдзецца быць за рашоткай.

Да слова, сёлета на Мёршчыне падлеткі здзейснілі 14 злачынстваў.

*У.Шык*

ДАРОЖНЫЯ НАТАТКІ

# Калі скончыцца ўпраўляемы бардак?

Першага лістапада я сабралася ехаць у Мінск. Ранішняя цемрадзь ды вецер, які шалёна гудзеў за вокнамі, настрою не паддавалі. Нечаканасцю стала і пакупка білета. Добра, што грошы ў дарогу ўзяла крыху больш кошта білета, а то б не хапіла. Аказваецца, праезд падаражэў ажно на 731 рубель. Ліха! "Мінімалка" якая была -- такая і засталася, а праезд рвануў, як конь-стаеннік. Прыхаўшы у Мінск, адразу паспяшыла за білетам на заўтра. Непрыемна здзівілася, даведаўшыся, што ўсе білеты на пятніцу, нават на дадатковы рэйс да Браслава, распрададзены. Мне прапанавалі ехаць сёння на мёрскім аўтобусе. Прыйшлося згадзіцца. Калі ў руках трымала апошні білет са стаячым месцам і з нумарам 138, было крыўдна да слёз. За 3 тысячы 192 рублі, якія не лёгка было зарабіць, я вымушана стаяць амаль пяць гадзін да Глыбокага! І нікога не цікавіць, што ногі адымаюцца, што сярэдзіна баліць… Да таго ж, на білеце значылася месца 138-ае. Гэта ж колькі людзей будзе стаяць і як яны будуць стаяць, калі ў аўтобусе 45 сідзячых месц? Да такой муштры не кожны садыст додумаецца, а дзяржава такое прыдумае і лёгка. Крыху памацаваўшыся, пайшла на пасадачную платформу. Хвалявала, што не ўсе справы справіла. Хвалявала надвор'е. Пад крытым Маскоўскім аўтавакзалам, які быццам бы прызнаны лепшай пабудовай за апошні час, калі пайшоў дождж, стаяць было нельга. Ліло з усіх бакоў, нягледзячы на закрытасць. Людзі пачалі хавацца ў "парнікі" -- доўгія, вузкія калідоры паўкругам зашклёныя, як парнікі. Але там было не цяплей. Вецер сіфоніў з усіх дзвярэй і праходаў. Стаяла і думала: "У каго ж былі мазгі, каб такую канструкцыю пабудаваць у Беларусі, якая цёплым кліматам пахваліцца не можа? Калі толькі месяцдругі. Такі праект ажыццяўляць трэба ў тропіках, дзе дыхаць не дае спякота, а не ў нас, дзе 8 месяцаў у годзе сцюжа і золь. Але ж разумных не паправіш.

Настаў час адыходу аўтобуса. Людзі рынуліся на платформу, каб хутчэй ускочыць у аўтобус ды прыгрэцца. Я са сваім стаячым цэтлікам не спяшалася. Маё стаячае месца мне застаецца. Я не прагадала, калі не выйшла на дождж. Прайшло 10 хвілін, 20, паўгадзіны. Аўтобуса не было. Людзі зноў вярнуліся ў «парнікі». З чырвонымі ад холаду насамі, сінімі вуснамі, мокрыя і расхваляваныя. Час ад часу дыспетчар паведамляла: "Рэйс Мінск – Мёры затрымліваецца. Пра час адпраўкі будзе аб'яўлена дадаткова". Прайшло яшчэ 10, 20 хвілін. Людзі пачалі расцякацца хто куды: хто за шклянкай гарбаты, каб пагрэць рукі і нутро, хто вадзіцца з дыспетчарам, хто пабег купляць білет на цягнік. Вось табе і заплаці 3 тысячы 192 рублі! Вось табе і абслужаць! Ні аўтобуса, ні замены. Сервіс на ўсе тры тысячы з "хвосцікам": дождж, холад, гадзіннае чаканне і вінаватых няма. За затрымку аўтобуса на гадзіну 10 хвілін ніхто з аўтатранспартнікаў навват не папрасіў прабачэння. Калі падалі аўтобус, ужо добра балела галава. Калі ў вадзіцеля і кантралёра пачалі ледзь не са слязьмі на вачах прасіцца ўзяць без білета (але за грошы) старэнькія бабулі і мацеркі з дзецьмі, разбалелася сэрца. Шафёр браць не хоча – дарожных кантралёраў баіцца. Людзі просяцца-моляцца, бо даехаць няма на чым. Шафёр суцяшае людзей тым, што пойдзе яшчэ браслаўскі аўтобус. Але ж ён пойдзе такі ж перапоўнены. Што ж людзям пешшу ісці: каму -- 100, каму ўсе 250 кіламетраў?

Нарэшце аўтобус пайшоў. Усю дарогу поршчыўся. У салоне нешта ляпала, скрыпчэла, свістала, шыпела – аж галава пухла. У Бягомлі зайшла ў кафе "Баравое". Як глянула на цэны – «выпала ў асадак». Прадукты з такімі нацэнкамі можна купляць толькі тады, калі дні са тры нічога не еў ці ўжо каб ад смерці адкупіцца. Во як, аказваецца, дзяржава навучылася рабіць бізнес на стомленых, пагаладалых, разнерваваных пасажырах. Пад рукой адчыняе кафе, нацэнкі – лясь, і гатова. Хочаш есці – купіш, не хочаш – цярпі ці падыхай. Былі ў дарозе і кур'ёзы. Толькі не да смеху ад іх. Яны -- сведчанне нашага дзікунства. Жанчына з сілачак рве, цягне на сябе дзверы "Ікаруса", спрабуе зачыніць. Замарыўшыся, кажа ў салон: "Не, мне з імі адной не справіцца." "А навошта табе з імі спраўляцца? — пытае мужчына, — калі яны зачыняюцца аўтаматычна? Націсне шафёр кнопку - і ўсё".

Другая пасажырка не можа раскласці самае пярэднее крэсла ля вадзіцеля. Ходзіць ля яго як лісіца ля збанка: і патрасе, і пад ніз загляне, і плячамі пацісне. А ручка збоку.

Сумна. Пражывуць людзі век і ніколі нічога людскага, цывілізаванага не пабачаць, не пакарыстаюцца. Наўрад ці праедуць на тым шыкоўным аўтобусе замежнай вытворчасці, што адпраўляецца з таго ж Маскоўскага аўтавакзала толькі не на Плешчаніцы, Бягомль, Глыбокае, а на Парыж, Рым, Варшаву. І падаецца ён своечасова, і вадзіцель там у бялюткай кашулі і пры гальштуку, і ветлівы з усімі, і ніхто не стаіць да Рыма – усе сядзяць. Бачым вачыма той сервіс, зайздросцім, а пакарыстацца не можам. Хоць і ў нас, а не для нас, лапатнікаў, тая цывілізацыя.

Жыццё падзяліла беларусаў на катэгорыі, як падзелены на катэгорыі прафесіяналізму настаўнікі, як падзелена на катэгорыі ўкормленасці свіння і ялавічына. Чым вышэйшая катэгорыя — тым з большым камфортам паедзеш. Калі ты пры ўладзе – "Мерседес" і "Волга" да тваіх паслуг. Калі інтэлігент, гарадскі транспарт і аўтобусы – твае. Калі ты калгаснік ці рабочы – цябе чакае цягнік, самы таннейшы транспарт, ды на ногі спадзявайся. Калі ты сын ці дачка чыноўніка – сядай і едзь з камфортам за мяжу, калі ты сын ці дачка інтэлігента ці калгасніка – чакай разламаны "Ікарус" і тарахайся на ім.

У свой час партыя рускіх анархістаў ваявала з царызмам пад лозунгам "Анархія – маці парадку". У перакладзе анархія – гэта беспарадак. Анархісты да ўлады ў Расіі не прыйшлі, але лозунг гэты ўзяты на ўзбраенне сённяшнімі "анархістамі" і ўжо не толькі ў Расіі, але і ў Беларусі. Анархія – гэта дрэнна, а ўпраўляемая анархія – яшчэ горш. Апошняе існуе зараз у нас. Вынік яе ўсё тое, аб чым я пісала вышэй. І гэта толькі маленькая часцінка нашага жыцця.

Дык калі ж гэты ўпраўляемы бардак скончыцца?

*Галіна Сутула*

# Гран-пры фестывалю «Залаты шлягер» застаўся ў Беларусі

Гран-пры і 2 тысячы долараў ЗША атрымала салістка Дзяржаўнага канцэртнага аркестра пад кіраўніцтвам М.Фінберга Таццяна Глазунова. Прызам імя В.Вуячыча і прызам глядацкіх сімпатый узнагароджаны Юрый Давькоў.

Усяго ў конкурсе ўдзельнічалі 18 вакалістаў з краін СНД, Балтыі, Балгарыі, Югаславіі, Румыніі і Польшчы.

*К.Увараў, БелаПАН*

# Кадравыя перастаноўкі ў Міністэрстве адукацыі

Першым намеснікам міністра адукацыі прызначаны А.Жук, які раней быў першым прарэктарам БДУ. Ранейшы першы намеснік міністра адукацыі Б.Іваноў прызначаны намеснікам міністра. Ад пасады намесніка міністра вызвалены Аляксандр Купцоў -- у сувязі з выхадам у адстаўку і Алег Слука -- у сувязі з пераводам на іншую працу.

*В.Асіпенка*

# Падарунак аўталюбіцелям

**У садружнасці з вядомай расійскай нафтавай кампаніяй "Лукойль" прыватная фірма "Сігма" з Пастаў пабудавала на ўездзе ў горад сучасную аўтазапраўчаную станцыю.**

Акрамя ўсіх марак бензіну тут можна набыць і тэхнічнае расфасаванае масла. Абслугоўваюць вадзіцеляў тут, як у еўрапейскіх краінах: дастаткова толькі заехаць на пляцоўку, а астатняе зробяць супрацоўнікі станцыі. Цэны на асноўныя віды паліва на ўзроўні дзяржаўных. Новая АЗС зручная і тым, што размешчана на раздарожжы накірункаў Літвы і Латвіі і транзітны транспарт зараз у горад не заязджае.

*У.Шык*

Кошт пахавання

# Як жывём – так і паміраем

**Жыць зараз складана, але большасць старых людзей і паміраць баіцца, бо пахаванне абыходзіцца не танна.**

Да прыкладу, набор рытуальных паслуг у Францыі каштуе 5 тысяч долараў. Сюды ўваходзіць труна, катафалк, капанне ямы. У Швецыі пахаванне абыходзіцца ў 2 тысячы долараў. Сума ўключае адзенне для нябожчыка, санітарную апрацоўку цела, транспарт, афармленне дакументаў, некралог у газеце, адпяванне, вянок, труну ці скрынку для праху.

Беларускі мінімальны пералік пахавальных паслуг абыдзецца ў 57 долараў. Мінімум уключае пяць асноўных паслуг: труна, надтрунная тумба, катафалк, капанне магілы, аўтакатафалк і дастаўка пахавальных прыналежнасцяў. Аркестр не ўваходзіць. Труна, вядома ж, самая танная альбо сацыяльна-значная за 27.273 рублі. Яна нават не абабіта тканінай, а проста пафарбаваная ў чорны колер. Тумба каштуе 2.314 рублёў, абабітая бархатам – 8 тысяч. Катафалк абыдзецца ў 39.783 рублі, капанне ямы – 8.891. Смерць без музыкі ў самай таннай труне каштуе 84.861 рубель альбо палову сумы, што складае дзяржаўная выплата для пахавання – 150.854 рублі. А яшчэ ж трэба рабіць памінальны стол. Калі за ўсе гэтыя паслугі плаціць "вадкай валютай", будзе яшчэ танней.

Калі ў заходніх краінах пахавальны бізнес справа прыбытковая, то ў Беларусі – стратная. Ёсць, вядома ж, людзі, якія могуць купіць труну і за 40 – 70 тысяч і нават за 800 – 900 тысяч рублёў. Апошнія труны нагадваюць бліскучы раскошны раяль залацістага колеру. Калісьці яны каштавалі ад 800 да 1500 долараў і іх раскуплялі. Сёння нават самую танную труну трэба падумаць, як купіць.

*І.П.Ахрэменка*

Галіна Сутула

ЖУРНАЛІСЦКІЯ МАНАЛОГІ

# Жыць па-новаму без аглядкі на дзень учарашні

**Наша жыццё ўступае ў новую эру развіцця. Былыя савецкія арыенціры засталіся ў мінулым тысячагоддзі і не вельмі хочацца, каб яны рабіліся пуцяводнай зоркай цяперашняга і будучага пакаленняў. Большасць беларусаў, якая працуе без дапамогі дзяржавы, адчувае сябе гаспадарамі, ведае кошт свабоды і цану сабе. Так і павінна быць. Каб перакацаць чытачоў, што жывём мы ўжо па-заходняму, а не па-камуністычнаму, калі светла і сыта павінна быць усім адразу, паглядзім на прыкладах.**

Успомніце, гадоў пяць таму назад многія палатнелі ў тварах ад думкі, што можна не хадзіць на дзяржаўную працу, якую ўжо тады лічылі прыгонам, што можна парупіцца, прыкласці намаганні, развіць прыродныя задаткі, падвучыцца і пачаць сваю справу.

— А што будзе з пенсіяй? – пыталіся невядома ў каго беларусы. — А стаж жа не выпрацаваны. Дзяржава пенсіі не дасць.

Дзяржаўная праца, ніштымны месячны мінімум, аднатонная руцінная праца,ustарэлыя адносіны, пры якіх падначалены – дурань, а начальнік – светлая галава, пенсія, якой хапае на тыдні два. У гэтых рамках праходзіла жыццё чалавека. Ужо сёння па-іншаму. Людзі адчулі, што яны – не дурні. Яны пачалі ацэньваць свае магчымасці і здольнасці нашмат больш, чым ацэньвае іх дзяржава. Паміж стабільным жабрацтвам і рызыкоўнай магчымасцю ад яго пазбавіцца, многія мае землякі аддаюць перавагу апошняму. Рызыкуюць, але затое і шампанскае п'юць, а не давяцца адной поснай бульбай і танным "чарнілам". Мы пачынаем разумець, што на годную старасць можна спадзявацца, сумленна прыходзячы штодзень на прыгон, а можна, не чакаючы міласці дзяржавы, ужо сёння пачынаць зарабляць на яе. Каб яшчэ законы ішлі насустрач, а не кланіся поперак, замінаючы, прыхільнікаў жыць па-новаму стала б яшчэ больш. Але добра тое, што людзі асэнсавалі, што такое права выбару.

Другі прыклад такі. За доўгія гады сацыялізму нас прывучылі атрымоўваць грошы не за працу, не за новыя ідэі, не за асаблівае старанне, творчасць, а за сам прыход на яе, за ўменне маўчаць, выконваць загады і быць пешкамі ў нейчай гульні. Да цяперашняга некаторыя пры ўладкаванні на працу адразу пытаюцца: "А колькі я буду зарабляць?" Але ўжо сустракаюцца і такія, якія пачынаюць са слоў: "Я магу тое. Зраблю для Вас гэта. Я ўмею тое, здольна на тое... У мяне ёсць рэкамендацыі такіх-та спецыялістаў." Чалавек у дадзеным выпадку рэкламуе свае магчымасці і ведае, што чым больш ён можа і ўмее, тым лепш аплоцяць яго здольнасці. Гэта таксама новы жыццёвы падыход. Пройдуць дзесяткі год перш чым усе беларусы зразумеюць: лепш атрымоўваць грошы ў канверце па заслугах, як на захадзе, чым па агульнай ведамасці грашы за прыход на работу.

Трэці прыклад. Людзі разумеюць, што вучыцца ні ў якім узросце не позна. Вучыцца не абавязкова ў ВУЗах. Вучыцца па-новаму ладзіць сямейныя і суседскія ўзаемаадносіны, наладжваць быт, вырашаць сямейныя праблемы. Лепшаму вучыцца не сорамна. Не сорамна пераймаць усё добрае не толькі ў старэйшай сястры Расіі, але і на "гнілым" Захадзе. Палітыка нашай дзяржавы зводзіцца да радкоўя: у нас усё добра, усё цудоўна, а ў Расіі ўсё дрэнна. У пятай частцы беларусаў наконт гэтага зусім іншае паняцце: няхай кажуць, што ў нас не добра, але ў Польшчы, Германіі яшчэ лепш. Цягнуцца трэба за лепшым, а не апускацца да горшага. Гэтае імкненне дапаможа ліквідаваць такую "хваробу", як задаволенасць сабой. Калі чалавеку няма да чаго імкнуцца, навошта жыць? Справядліва кажуць спевакі і артысты: "Нашы лепшыя ролі -- не сыграныя, нашы лепшыя песні яшчэ не праспяваныя." І наша лепшае жыццё яшчэ наперадзе. Толькі не трэба сядзець склаўшы рукі і з апатыяй назіраць, што робіцца вакол, чакаць, калі ж гэтае райскае жыццё нам дасць дзяржава. Дасць, толькі не думаю, што лепшае.

І чацвёрты прыклад. Калі раней людзі без адукацыі баяліся заходняга вобраза жыцця, якім дзяржава пужала сваіх грамадзян, баяліся, што яны не будуць запатрабаваныя, будуць нікому не патрэбныя, то паціху-паволі гэты страх знікае. Адукаваны чалавек, вядома ж, павінен зарабляць больш, хутчэй знаходзіць працу. Але людзі без адукацыі – гэта не значыць, што яны нікчэмнасць. Талент ёсць у кожнага чалавека. Галоўнае -- яго адчуць, развіць, прарэкламаваць і паставіць на службу адукаваным. Добры повар без ВУЗа гэтак жа патрэбен як прафесар з аспірантурай. І не тое страх, што ён зарабіць менш чым прафесар. Страх тое, што зараз абое жывуць як жабракі, а павінны абодва жыць годна, у меру сваіх магчымасцяў і задаткаў.

Карэньчыкі новай свядомасці прарастаюць у галовах беларусаў. Трэба толькі клапатліва даглядаць свае ідэі. Працаваць і верыць, што толькі мы самі, толькі настойліва і цярпліва дабіваючыся змен. Тое, што яны ўжо падобныя на заходнія, сведчанне незваротнага працэсу, пачатак якому паклала права выбару. Гэты выбар павінен зрабіць кожны з нас самастойна, не чакаючы міласці ад дзяржавы.

# На змену зіме заўсёды прыходзіць вясна

**Паважаныя чытачы!** Апошнім часам мы атрымоўваем ад Вас шмат пісьмаў. Нехта з Вас піша пра жыццё, якое яно ёсць. Хтосьці падказвае тэмы публікацый, бо сам "не мае філалагічных здольнасцяў і не ўмее прыгожа афарміць думку". Адны пішуць прозай, другія – вершамі. Ёсць шмат пісьмовых водгукаў і тэлефонных званкоў – чытачы дзякуюць нам за працу, за тую непадмаляваную, іншы раз гаркаватую, праўду жыцця, якую настойліва каторы год хаваюць ад народа дзяржаўныя выданні. Вядома ж, усім нам хочацца, каб у краіне жылося добра, шчасліва, заможна, але ад таго, што мы не будзем пісаць аб адмоўным і дрэнным, жыць лепш не стане. Вельмі яскрава пацвярджае гэта такая паралельная парадель.

З году ў год мы старэем. А выглядаць хочацца годна: і молада, і прыгожа. Таму мы, жанчыны, карыстаемся касметыкай. Недзе пудра, недзе крэм, недзе памада і туш. Атрымоўваецца іншы раз нядрэнна, але гэта ўжо штучная, а не натуральная прыгажосць. Яна на адзін выхад "у людзі", на гадзіну, на дзень. І як не прыкра: калі здымаецца вечарам штучная маска, застаецца натуральная пастарэлы твар. Хоць і не хочацца на яго глядзець, усправмаць яго паблёклы і бясколерны, а трэба. Закон прыроды. На каго злавацца?

Сярод водгукаў бываюць адзінкавыя, калі чытачы раяць "замазваць" наша жыццё каляровымі фарбамі, не "сыпаць соль на раны", маўляў, і так цяжка. Нам усё гэта зразумела – жывём жа ў адной краіне. Але ад таго, што мы кожны раз, да прыкладу, ці кожны дзень будзем гаварыць пра грошы, іх у нас больш не стане.

Зразумейце, пісаць так як ёсць – не проста. Казаць, што чорнае – гэта чорнае, калі вакол крычаць, што яно белае – не кожнаму дадзена. Гэта могуць рабіць людзі, якія прытрымліваюцца сапраўднай грамадзянскай пазіцыі, якія жадаюць змяніць жыццё і зрабіць яго калі не зусім белым, то хоць крыху святлейшым. Казаць праўду сёння небяспечна. Людзі, якія гэта робяць, мужныя і шчырыя. За гэта іншы раз такіх крытыкуюць. За ўвесь час выхаду газеты толькі два чытачы адкрыта абвінавацілі нас у тым, што пішам пра жыццё нічога не ўтойваючы. Такія людзі на пустым месцы шукаюць сабе ворагаў. Калі іх няма, то выдумваюць сабе. Магчыма, так цікавей жыць. І не віна гэта нашых чытачоў, а бяда – столькі год іх падманвалі, абяцалі, некуды вялі. А прыйшлі ў глухі тупік.

У сувязі з гэтым хачу прывесці яшчэ адзін прыклад. У прыродзе існуе свая разумная заканамернасць. Лета змяняецца восенню, зіма -- вясной. На змену сонейку і цяплу, як бы мы не хацелі, прыходзіць сцюжа і дождж, мароз і завеі. Але мы ж не шукаем ворагаў у прыродзе, не злуёмся на прыроду за яе нечаканыя змены "настрою", бо ведаем – гэта закон, дадзены Богам. Адзіна справядлівы, непадуладны загадам людзей і іх асабістым жаданням. І добрае, і дрэннае надвор'е трэба перажыць. І чым часцей ідуць дажджы, чым больш хмарных дзён, тым большае ў нас жаданне дачакацца сонейка, цяпла і святла. Мы вельмі ўдзячны ўсім нашым чытачам за падтрымку, за спагаду, за падказкі. Чым мацнейшая наша з Вамі сувязь, тым большая гарантыя таго, што пісаць мы будзем аб'ектыўна, праўдзіва, без раздзялення чытачоў на важных чыноўнікаў і на простых смяротных. Закон праўдзівы, ён, як і закон прыроды, павінен быць адзін для ўсіх. І міністр, і селянін павінны кіравацца ім. Падмануць сябе можна на дзень, год, нават на дзесяткі, але гэта не пазбаўляе чалавека ад адказнасці, бо "человек предполагает, а Бог располагает".

Пішыце нам, тэлефануйце. Чытайце "Вольнае Глыбокае" і выбірайце для сябе свабоду. Імкніцеся да незалежнасці ад чужога ўплыву, ад прымусовых ідэалогій і загадаў. Імкніцеся быць самі сабой, а не "калёсікам і вінцікам" сістэмы.

*Супрацоўнікі «ВГ»*

Фота Ул. Скрабатуна



На глыбоцкім рынку можна купіць усё: ад семак да аўтамабіляў, ад ніжняй бялізны да шыкоўнага футра. Ну а калі прагаладаешся -- не бяда. Тут можна пачаставацца і гранатамі, і клёцкамі, якія гатуюць для ўсіх жадаючых прадпрымальныя людзі.

# Жыццёвы анекдот на тэму тэлефанізацыі

**Як звыкла ўладарам хатніх тэлефонаў весці размовы і вырашаць справы, не выходзячы з кватэры. Тыя ж, хто не мае гэтага цуда – апарат дома, шукае выйсце пры дапамозе таксафона ды перагаворнага пункта.**

**Кожны з нас на сабе адчуў працэс глабальнай тэлефанізацыі ў Глыбоцкім раёне. Мая гісторыя таксама аб гэтым.**

Тэрміновая справа, як заўсёды, застала знянацку. Трэба было вечарам патэлефанаваць начальніку і адпрасіцца на наступны дзень з работы. Не маючы ні тэлефона, ні тэлефоннай карты, я адправіўся на пошту. Дачакаўшыся чаргі ў кабіну тэлефона, пачаў набіраць знаёмы нумар. Зразумела ж – беспаспяхова. Ведаеце, бліжэйшы час Глыбоцкаму раёну тэлефонны тэрарызм не пагражае, бо нашы сувязісты так пераблыталі нумары, што самая дасканалая разведка іх не зможа высветліць. Так ідзе тэлефанізацыя.

Тады я папрасіў тэлефаністку дапамагчы мне высветліць новы нумар патрэбнага тэлефона, бо на вітрыне, побач з супрацоўніцай, ляжаў новы даведнік з цэннікам. Яна адказала: "Тэлефонныя даведнікі для продажу". Тады я задаў пытанне: Няўжо мне тэлефанаваць па 09 у даведку?" "Так, можаце тэлефанаваць", — быў адказ.

Для недасведчаных патлумачу, што дзяжурная, якая адказвае на тэлефон 09, працуе ў 3 –4 метрах ад міжгародніх аўтаматаў.

*Л.Шпак*



*Фота Уладзіміра Скрабатуна*

Журналісты маскоўскага тэлеканала «ТВ-6», якія пабывалі на Глыбоччыне ў канцы жніўня гэтага года, бяруць інтэрв`ю ў вяскоўца з Латыголі (Глыбоцкі раён)

*Смяшней не прыдумаеш*

## Жыццёвы анекдот

Івану П. зрабілі аперацыю на носе, калі яму было год сорак. Зацягнуты геймарыт прыйшлося аперыраваць у Віцебску – мужчына верыў, што ў вобласці дактары разумнейшыя, зробяць хоць і за грошы, але якасна. Зрабілі. Малады ўрач-практыкант з аперацыяй справіўся хутка. Праўда, пасля яе мужчына зусім страціў нюх.

Прайшло шмат год. Іван па-ранейшаму жыў у раёне. Колішні практыкант-аталарынголаг таксама працаваў у раённай паліклініцы. Неяк Іван прыйшоў на прыём да "насавога" доктара і адразу пазнаў таго. Доктар уважліва агледзіў пацыента і пытае:

-- Які ідыёт Вам так зрабіў аперацыю?

Што было рабіць Івану? Як чалавек сумленны, ён сказаў праўду:

-- Гэта Вы, доктар. Памятаеце, 15 год назад у Віцебску? Вы тады былі на практыцы…

Доктар, ані не засмуціўшыся, здзівіўся:

-- Глядзі ты, а нічога ячшэ і зрабіў.

*Вольга з Докшыц*

## Вiншуем

***Карандзея Люцыяна Іосіфавіча і Карандзея Іосіфа Іосіфавіча з 55-годдзем!***

***Жадаем вялікага шчасця, моцнага здароўя, радасці, поспехаў у працы, кахання і ўсяго самага-самага найлепшага!***

*У Вас сегодня юбилей,*
*День радостных переживаний,*
*Пусть будет на душе теплей*
*От добрых слов и пожеланий.*
*Желаем счастья и добра,*
*Здоровья, бодрости и силы.*
*Душа пусть будет молода --*
*Не важно сколько лет пробило.*

***Таццянка і Міхаіл***

## Вiншуем

***Карандзей Таццянку з 20-годдзем!***

***Жадаем здароўя, шчасця, вялікага кахання, поспехаў, шмат радасці і як мага менш расчараванняў і няўдач. Жадаем быць заўсёды самай вясёлай, добрай, жыццярадаснай і каханай.***

*Мы пожелать тебе хотим*
*Обыкновенное, простое:*
*Любовь и счастье подари тому,*
*Кто этого достоин!*

***Брат Міша і тата***

## Як падзарабляюць артысты?

На мясных прадуктах і гарэлцы нядрэнна зарабляюць заснавальнікі "Вінакур-Холдзінга" Уладзімір Вінакур і Леў Лешчанка. Юрый Лаза, Міхаіл Мурамаў, Леанід Агуцін, Аляксандр Сяроў, Аркадзь Укупнік і Уладзімір Мацецкі маюць уласныя студыі гуказапісу, якія яны здаюць у арэнду.

Надзея Кадышава, Вахтанг Кікабідзэ, Ганна Самохіна, Андрэй Макарэвіч, Валерый Міладзэ і Стас Намін маюць свае рэстараны. Дзмітрый Харацьян – клуб "Кіно". Ала Пугачова выпусціла калекцыю абутку і рыхтуе парфюмерную лінію імя сябе. Віка Цыганова выпускае імянную гарэлку ў адным з правінцыйных гарадкоў, а Ірына Алеграва плануе адкрыць пякарню. Спявачка Ліка выбрала нетрадыцыйны бізнес – яе фірма "Ві-Ві Тахі" развозіць па Маскве і Падмаскоўю бензін у каністрах вадзіцелям, якія засталіся на дарозе без паліва.

*«АiФ»*

## Расійскія небаскробы

Яшчэ ў 1993 годзе пад дзелавы цэнтр "Масква-Сіці" было адведзена 100 гектараў зямлі на Краснапрэсненскай набярэжнай. Пакуль што нічога не пабудавалі. Для завяршэння праекта неабходна 12 мільярдаў долараў, якія Юрыю Лужкову паабяцалі даць амерыканскія бізнесмены.

Самай высокай у Маскве будзе вежа "Расія" -- 600 метраў(115 паверхаў). Яна прэтэндуе на месца ў Кнізе рэкордаў Гінеса, таму што будзе на 148 метраў вышэйшая за самы высокі небаскроб у свеце, які быў пабудаваны тры гады таму назад у сталіцы Малаазіі Куала-Лумпурэ.

## Анекдот нумара

Новы рускі прыходзіць да варажбіткі:

— Мне сёння снілася, што я – бульбіна. Што гэта можа значыць?

— Усё проста, мілы. Цябе альбо вясной пасадзяць, альбо восенню прыберуць.

*ШОЎ-БІЗНЕС*

## Ігар Талькоў заспяваў

**4 лістапада расійскаму спеваку Ігару Талькову споўнілася б 45 год.**

Сын вядомага спевака Талькоў-малодшы сказаў, што справу аб забойстве бацькі закрылі. Ніхто нічога не ведае пра абставіны яго смерці. 14 кастрычніка Ігару-малодшаму споўнілася 20 год. Ён ужо напісаў 13 песен. Адну з іх, "Трэба жыць", ён выканаў 8 лістапада ў Маскве на канцэрце ў гонар памяці свайго бацькі.

## Аляксандр Сяроў пацярпеў двойчы

Спявак А. Сяроў пераехаў у Маскву з горада Нікалаева ў 1983 годзе. Спачатку жыў у камуналцы. Пасля падсабраў грошы, купіў чатырохпакаёвую кватэру ў цэнтры Масквы і тут жа пераабсталяваў яе ў сучасную студыю гуказапісу. Інжынерам мантажа ў ёй стала жонка Аляксандра, экс-акрабатка Алена Сцябнёва. На жаль, пасля занадта "добрай" сустрэчы трэцяга тысячагоддзя, шыкоўная кватэра спевака пры невядомых абставінах выгарэла датла. Вясной Аляксандр купіў новыя апартаменты на пятым паверсе аднапад'езднай высоткі. Аднак, і тут не пашчасціла. Зусім нядаўна злодзеі ўкралі з сейфа артыста каля 300 тысяч долараў.

Вядома ж, быць знакамітым і мець такія тысячы долараў у сейфе, якія былі ў А.Сярова, нядрэнна. А з другога боку -- колькі хваляванняў і бяссонных начэй прыходзіцца правесці з-за іх.

*«АiФ»*

## Селязнёва хацелі пачаставаць сабачынай

Спікер Дзярждумы Генадзь Селязнёў нядаўна быў членам дэлегацыі, што наведала Паўднёвую Карэю. У адным рэстаране, дзе спікер з калегамі хацелі паесці, вывелі тоўстага сабаку і прапанавалі гасцям забіць таго палкамі, каб затым прыгатаваць адбіўныя. Расіяне ўцяклі з рэстарана. Вядома ж, іх напужаў зусім не кошт стравы.

*"АiФ"*

## БЯСПЛАТНЫЯ ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

### ШУКАЮ ПРАЦУ:

Спецыяліст з вялікім вопытам работы выканае плітачна-аддзелачныя работы па еўрастандарту. Званіць па тэл. у Глыбокім: 22379 з 19.00 да 21.00. Спытаць Сяргея.

### ЗАПРАШАЕМ:

Газета «Вольнае Глыбокае» запрашае на працу рэпарцёра, карэктара. Тэл. у Глыбокім 2-87-54, 3-76-19

### ПРАДАМ:

-- бляху ацынкаваную 0,55 мм -- 2,50 х 1,25;
-- аўтамабіль ГАЗ-53 (фургон);
-- фургон ізатэрмічны да ЗІЛа альбо ГАЗ-53;
-- вагон пад гандаль або дачу;
-- гараж у раёне МКК памерам 5,5. х 10,0; і хлеў
-- сядзібу ў вёсцы пад знос.
Звяртацца ў г. Глыбокім па тэл.; 2-40-17, 2-89-33 альбо 4-20-17, 4-43-25

-- аўтамабіль "Фольксваген-Пасат" 84 г. (карбюратар) у добрым стане;
-- касетны магнітафон "Маяк"; стэрэаўзмацняльнік і калонкі S-90 "Радыётэхніка"; халадзільнік новы аднакамерны тэлевізар "Бярозка" ч/б, танна. Тэл. у Глыбокім: 27458.

-- Піяніна «Беларусь» у добрым стане карычневага колеру. Тэл. у Новаполацку: 551986. Магчыма дастаўка да патрэбнага месца. Прохараў Пётр.

-- Карову шасці цялят чорнай масці. Звяртацца ў вёску Вераб'і Глыбоцкага раёна да Сіманковіч Алены Антонаўны.

-- Імпартныя змяшальнікі на кухню ад 16 да 38 тысяч рублёў; ванну ад 38 да 66 тысяч; гібкую падводку ад 40см. да 3-ох метраў; краны шаравыя на 15,20,25,32 дзюймаў. Продаж адбываецца на калгасным рынку ў Глыбокім па нядзелях каля мяснога павільёна. Тавар сертыфікаваны і мае гарантыю. Тэл у Глыбокім: 21744

### ЗДЫМУ:

-- здыму на працяглы тэрмін аднапакаёвую кватэру з выгодамі для аднаго чалавека. Тэл. 3-86-25, (2-11-73 з 8.00 да 18.00, Лена)

-- сям'я з двух чалавек здыме 1-пакаёвую кватэру. Тэл 2-14-95 да 15

Здыму адна-двухпакаёвую кватэру з выгодамі і тэлефонам у раёне МКК на працяглы тэрмін. Тэл 3-76-19 Яраслаў

### КУПЛЮ:

ВАЗ-2121 «Ніва» ў любым тэхнічным стане: біты, нерастаможаны, не на хаду. Разгледжу любыя варыянты. Тэл. у Наваполацку: 8-245-73042 (раніца, вечар)

Гандлёвую палатку 2х2 б/у. Тэл. у Глыбокім: 22379 пасля 19.00

Грузавы аўтамабіль ГАЗ-52 альбо ГАЗ-53, дызель ці бензін у добрым стане. Звяртацца па адрасу: Глыбокае, вул. Савецкая. Тэл 23420

**Набывайце газету «Вольнае Глыбокае» ў кіёсках «Саюздруку» і ў нашых распаўсюджвальнікаў**

Незалежная рэгіянальная газета «Вольнае Глыбокае»

Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Набор: Юрый Калбасіч;
Дызайн, вёрстка: Васіль Саланінка;
Рэгіянальныя карэспандэнты:
С. Табола, Шаркоўшчынскі р-н, тэл.: 23111;
У. Шык (г. Паставы), тэл.: 22099

Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1099, выдадзена дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Тэл/факс: 28754 (Галіна СУТУЛА).
Адрас для допісаў: вул. Валадарскага, 67, 211800, г. Глыбокае, BELARUS.

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень
Аб`ём -- 1 друкаваны аркуш
Падпісана ў друк 12 лістапада 2001 г. у 9[00]

Наклад 1000 паасобнікаў

Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк, вул. Блахіна, 26 Замова 6933